На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

**№ 35 (1100)**

Серада, 21 лютага 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 60 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



# Правал,

## або Чаму прафсаюзная акцыя аказалася не надта масавай?

Мінуў тыдзень пасля прафсаюзнага мітынгу. Цяпер можна спакойна і цвяроза ацаніць тое, што адбылося. Зрабіць гэта важна і неабходна таму, што той мітынг стаў адкрытай пробай сіл улады і прафсаюзаў напярэдадні прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

Як вядома, вертыкальшчыкі імкнуліся сарваць акцыю, а прафсаюзныя лідэры абяцалі вывесці на Бангалор каля 30 тысяч працаўнікоў. Выйшла на мітынг, па ацэнках экспертаў, прыкладна пяць тысяч чалавек. Выйшаў у асноўным прафсаюзны актыў. Было на мітынгу нямала лідэраў і актывістаў партый і рухаў, грамадскіх дзеячаў і журналістаў, якія адсочваюць грамадскія працэсы і бываюць амаль на ўсіх падобных мерапрыемствах. А вось рабочых прыйшло мала. Вельмі мала. Чаму?

Пошук адказу на гэтае пытанне мае выключна важнае значэнне. Найперш для саміх прафсаюзаў. Вось так, як прайгралі мітынг, яны могуць прайграць і прэзідэнцкія выбары.

Я патэлефанаваў кіраўнікам прафсаюзных камітэтаў шэрагу буйных мінскіх заводаў і пацікавіўся, чаму рабочыя не падтрымалі акцыю. Вось што мне адказалі.

"Напэўна, рабочым не спадабалася месца, дзе ладзіўся мітынг, — **зазначыў намеснік старшыні прафкама завода шасцерань Мікалай Рашэўскі.** — Ды і актыўнасць рабочых сёння невысокая". На пытанне "Якую работу вы звычайна праводзіце ў калектыве напярэдадні мітынгу?" мой субяседнік назваў: нарада з кіраўнікамі цэхавых камітэтаў, аб'явы аб акцыі.

**Старшыня прафсаюзнага камітэта Мінскага аўтамабільнага завода Васіль Дыбаль быў нешматслоўны:**

— Чаму не пайшлі? Цяжка сказаць. Дакладна не ведаю.

На акцыянерным таварыстве "Мотавела" ў час падрыхтоўкі да акцыі правялі пасяджэнне прафсаюзнага камітэта. На маё пытанне **намеснік старшыні прафсаюзнага камітэта Алег Карчагін адказаў так:**

Рабочыя не захацелі ісці на плошчу Бангалор. Ды і масіраваны ціск на прафсаюзы праз дзяржаўныя СМІ моцна паўплываў.

Як бачым, грунтоўнага адказу на важнае пытанне я так і не пачуў. Довад жа пра Бангалор, на які спасылаюцца амаль усе, не вытрымлівае крытыкі. Падобна, што сур'ёзным аналізам правалу акцыі ніхто пакуль не заняўся. Ды, відаць, і не збіраецца.

Паспрабуем пашукаць адказ у гутарках з рабочымі. У дзень мітынгу я гутарыў з працаўнікамі, якія выходзілі з абутковага аб'яднання "Прамень" і Мінскага радыёзавода. На маё пытанне "Вы на мітынг?" кожны шосты-сёмы адказваў пытаннем: "Які мітынг? Зноў нейкі мітынг?". Многія рабочыя нават не ведалі пра прафсаюзную акцыю. Лідэры прафсаюзных камітэтаў, як гэта бачна з размоў з імі па тэлефоне, працавалі ў асноўным з актывам, а да нізоў, да брыгад, як кажуць, не дайшлі.

Амаль дзве трэці тых, хто ведаў пра мітынг, але не збіраўся ісці на яго, прыкладна так тлумачылі сваю пазіцыю: "А які толк з тых мітынгаў? Што яны даюць? Ды нічога! Усё як было да мітынгу, так і застанецца і пасля яго". Калі ж я пачынаў даводзіць пра Белград, Сафію, Прагу, тлумачыць, што калі там выйшлі сотні тысяч людзей на вуліцы, дык і пачалося паляпшэнне жыцця, большасць маіх субяседнікаў хутка мянялі свае погляды. Многія заўважалі: "А, мабыць, і трэба выходзіць на мітынгі?".

Пасля кароткіх міні-дыскусій я прыйшоў да высновы, што калі б прафсаюзныя актывісты правялі сходы ў кожнай брыгадзе, патлумачылі людзям мэты мітынгу, то на Бангалор прыйшло б не менш за сотню тысяч чалавек. На жаль, уся падрыхтоўчая работа да мітынгу нагадвала вядомую прытчу пра лес. Моцна шумяць, качаюцца ад ветру вершаліны дрэў, а вось унізе, каля травы, цішыня. Так і на прадпрыемствах: тусуюцца, заклікаюць адзін аднаго актывісты, а да рабочых месц галасы не далятаюць, там цішыня.

Складваецца ўражанне, што некаторыя прафсаюзныя лідэры зусім не стараліся, каб адбыўся мітынг, сёй-той проста не хацеў псаваць адносіны з дырэктарам, ад якога ўлады патрабавалі адгаварыць рабочых ад удзелу ў прафсаюзнай акцыі. Невыпадкова ж нават шэраг кіраўнікоў галіновых прафсаюзаў адкрыта не падтрымалі рашэнне аб правядзенні мітынгу. Сярод прафсаюзных начальнікаў нямала функцыянераў, якія заўжды гатовы, як казалі раней, скакаць кракавяк з прадстаўнікамі ўлады.

Калі лідэры Федэрацыі прафсаюзаў сапраўды намерыліся на прэзідэнцкі трон, дык ім, перш чым аб'яднацца вакол такой задумы, трэба, як вучыў Ленін, спачатку размежавацца... са штрэйкбрэхерамі, як называлі на мітынгу тых, хто павярнуўся спінай да важнай акцыі. І галоўнае — распачаць працу ў брыгадах, непасрэдна з працаўнікамі.

Цяпер прафсаюзы пачынаюць збор подпісаў у падтрымку сваіх патрабаванняў. Акцыя важная, але яна не заменіць дыскусій у працоўных калектывах аб тым, як жыць далей: чакаць з мора лепшага надвор'я ці актыўней самім змагацца за лепшую долю? Бо любое дзеянне пачынаецца толькі пасля разумення яго неабходнасці.

**Алесь ДРАБЧУК.**

Выбор-2001

# "Бабский батальон" Мечеслава Гриба

*Нам прожужжали уши о неких мифических боевиках из ОБСЕ, которые просто-напросто, согласно общепринятым международным нормам, собираются наблюдать за избирательным процессом на предстоящих в сентябре нынешнего года президентских выборах. И о злобных кознях Запада, пытающегося помешать очередным выборам Александра Лукашенко на пост президента Республики Беларусь...*

*Оставим пропагандистские сплетни и поговорим о наболевшем. Согласно мнению экспертов, для полноценного независимого наблюдения за процессом выборов необходимо 14 000 человек. Почти половину от этого количества готов обеспечить* ***Мечеслав ГРИБ,*** *председатель Центрального координационного совета общественных объединений по подготовке к наблюдению за выборами.*

**— Мечеслав Иванович, слышал, что половину общего количества наблюдателей, подготовленных Вашей структурой, составляют дамы. Так ли это?**

— Больше, чем половина, — две трети. От существующих у нас на настоящий момент 7000 наблюдателей. Причем большая часть из этих двух третей — женщины пенсионного возраста.

**— Если пользоваться воинственной лексикой государственных СМИ, бабский батальон какой-то получается?**

— Больше, чем батальон. По численности — почти две полноценные дивизии.

**— В каких комиссиях планируется работа Ваших наблюдателей?**

— Во-первых, это минская городская комиссия, во-вторых, районные избирательные комиссии и, в третьих, самые массовые — участковые избирательные комиссии. Последних больше всего: 6693.

**— Откуда взялась известная цифра в 14 тысяч наблюдателей?**

— Если сложить названные выше мной цифры, всего получается около семи тысяч комиссий. Для более-менее полноценного наблюдения необходимо не менее двух наблюдателей на комиссию. Отсюда и упомянутая Вами цифра.

**— Два наблюдателя на участок — это требование законодательства?**

— Нет. Законодательство предусматривает, чтобы на каждом участке было не более одного представителя от одной политической партии или общественной организации. А партий и организаций, как Вы знаете, у нас много. Вопрос состоит в другом — сколько наблюдателей мы реально способны обеспечить. Один наблюдатель — это мало: и выйти на обед нужно, и позвонить. Два наблюдателя могут подменять друг друга и не допустить явных нарушений и подтасовок.

**— А как насчет Центральной избирательной комиссии? Планируете ли иметь там своих наблюдателей?**

- Давайте реально смотреть на вещи: существующая власть не позволит нам это сделать. Речь пока идет только о минской городской, региональных и районных комиссиях. Для нас главное сейчас — добиться получения реальных результатов президентских выборов. И все это соответствует статье 13-й Избирательного кодекса. Мы все делаем в строгом соответствии с белорусским законодательством, даже в случаях, когда оно нам не нравится. Другого выбора у нас нет. Мы можем действовать только по закону.

**— В югославском варианте победы на президентских выборах сумели организовать альтернативную компьютерную систему подсчета голосов. Как Вы думаете, Вы в состоянии сегодня обеспечить функционирование подобной системы?**

— Поставить в каждую избирательную комиссию компьютер и наладить компьютерную сеть мы, конечно, не сможем: у нас нет таких средств. Но обойтись, безусловно, без компьютерного центра для централизованного подсчета голосов будет невозможно. У нас такой центр уже организован. Мы будем проводить параллельный подсчет, чтобы уже ночью до объявления официальных результатов Центризбиркома, получить результаты нашего наблюдения. Далее мы планируем созвать пресс-конференцию и объявить общественности результаты президентских выборов. Так было в Югославии. Так будет и у нас.

**— Чьи интересы защищают Ваши "дивизии"?**

— В первую очередь интересы избирателя. Наши наблюдатели независимые. Мы не за Лукашенко, и не за Домаша, и не за Козловского. Мы — за честные и открытые выборы. Наши люди будут наблюдать за тем, как исполняется законодательство. Если кто-то из противостоящих Лукашенко кандидатов будет его нарушать, мы будем выявлять и эти нарушения.

**— Кто приходит к Вам учиться быть наблюдателем?**

— Самые разные люди: как я уже говорил, в первую очередь женщины, пенсионеры, студенты, рабочие. Главный принцип нашей работы — добровольность. Хочешь принять участие в наблюдении, интересно тебе это, небезразлична судьба Родины — приходи и работай, вноси свой вклад. Никто никого не заставляет ничего делать. У нас нет никаких ограничений: ни относительно партийной принадлежности, ни относительно чего-то другого. Не можем взять в свою организацию, к примеру, несовершеннолетних или больных. Это требование законодательства. Власти, в принципе, должны нам платить. Мы ведь, по сути, делаем их работу.

**— Чтобы обеспечить полноценное наблюдение за выборами, Вам необходимо искать партнеров. Есть ли они у Вас сейчас?**

- Да, мы сотрудничаем с Ассамблеей негосударственных общественных объединений Алеся Беляцкого, с Федерацией профсоюзов Белорусской, фондом "Детям Чернобыля", свободными профсоюзами... Наши двери открыты для всех. Мы координируем общие усилия.

**— Довольны работой?**

— Тяжело. Есть факты преследования, наблюдателей увольняют с работы, угрожают. Особенно на местах. Мы всеми средствами стараемся их защитить, насколько позволяют возможности. А они сегодня, как Вы понимаете, ограничены.

**— Если у наших читательниц или читателей возникнет желание записаться в Вашу организацию, научиться быть наблюдателем, куда им обращаться?**

— Телефон нашего офиса в Минске: **252-03-72.**

**— Мечеслав Иванович, скажите откровенно: а будет 14 тысяч наблюдателей на выборах?**

— Будет.

**Беседовал Александр СИЛИЧ.**

Дыпкур'ер

# Што вымушае югаслаўскага пасла развітацца з Беларуссю

На пасадзе кіраўніка югаслаўскай дыпламатычнай місіі ў Беларусі Мілaрад Радзевіч знаходзіўся ўсяго чатыры з паловай месяцы. Пры звычайных дыпламатычных стандартах, калі амбасадар працуе ў краіне, як правіла, тры гады, ад'езд праз такі кароткі тэрмін — справа незвычайная. Што ж вымушае Радзевіча развітацца з Беларуссю?

Звернем увагу на некаторыя даты. 24 верасня ў Югаславіі адбыўся першы тур прэзідэнцкіх выбараў. На 8 кастрычніка планаваўся другі тур, паколькі першапачаткова Цэнтрвыбаркам паведаміў, што ні Мілошавіч, ні Каштуніца з першай спробы не набралі неабходнай для перамогі колькасці галасоў. З кастрычніка Радзевіч уручае Лукашэнку даверчыя граматы. А на наступны дзень новы амбасадар праводзіць у Мінску сваю першую прэс-канферэнцыю. Мабыць, Радзевіч у той час быў настолькі перакананы ў поспеху Мілошавіча, што ў размове з прэсай адразу паведаміў: Слабадан Мілошавіч не наважаны прасіць палітычнага прытулку ў Беларусі, зрэшты, як і ў якой бы то ні было іншай краіне. Дыпламат назваў распаўсюджвальнікаў падобных звестак, а яны тады рэгулярна з'яўляліся ў расійскай і беларускай недзяржаўнай прэсе, "злоснымі людзьмі". Ужо тады шмат хто звярнуў увагу на незвычайную для амбасадараў рыторыку Мілaрада Радзевіча.

Звычайна дыпламаты — людзі вельмі асцярожныя, якія адказна падбіраюць кожнае слова. А вось Радзевіч, адкінуўшы гэтыя правілы, у нейкім захапленні ганьбіў агрэсараў з НАТА, краіны-захопнікі, авантурыстаў з Вашынгтона і гэтак далей.

Магчыма, сказалася, што Мілaрад Радзевіч — непрафесійны дыпламат. Даведка, якая захавалася ў мяне з той прэс-канферэнцыі, сведчыць, што ягоная кар'ера пачалася з шэрагу пасад у Радзе прафсаюзаў Югаславіі. З кастрычніка 1991 года ён быў прызначаны намеснікам міністра па пытаннях працы, ветэранаў вайны і сацыяльных пытаннях. Са снежня 1993 года да прызначэння амбасадарам у Беларусь працаваў дырэктарам Архіва Сербіі. Радзевіч з 1957 года з'яўляецца членам Саюза камуністаў, а з 1994 года — Югаслаўскай левай партыі.

Радзевіч паспяшаўся роўна на адзін дзень, бо ўжо 5 кастрычніка Югаславія віншавала Ваіслава Каштуніцу.

Зразумела, што замена амбасадара ў Беларусі ёсць пэўная рэакцыя на яго паводзіны. Пасля перамогі кааліцыі апазіцыйных партый міністэрскія партфелі былі размеркаваныя ў адпаведнасці з папярэднімі дамоўленасцямі. Зараз югаслаўскі МЗС праводзіць масавую ратацыю кіраўнікоў дыпламатычных місій. Новае кіраўніцтва міністэрства, у прыватнасці, заявіла, што паслы, якія адклікаюцца, або з'яўляюцца паплечнікамі прэзідэнта Мілошавіча, або не схільныя да супрацоўніцтва з Захадам у сілу нацыяналістычных поглядаў, або па нейкіх іншых прычынах не могуць болей займаць пасаду пасла.

Ёсць звесткі, што толькі на працягу лютага Белград адклікае з краін Усходняй Еўропы 8 амбасадараў. І першым у гэтым спісе значыцца Мілaрад Радзевіч. А пакуль Часовым паверaным у справах Югаславіі ў Беларусі прызначаны дарадчык амбасады Слабадан Яарчэвіч.

Аднак дагэтуль пасламі Югаславіі ў Беларусі прызначаліся выключна прадстаўнікі Чарнагорыі. Пакуль югаслаўскі МЗС не вырашыў, хто зменіць Мілaрада Радзевіча на пасадзе ў Беларусі.

А беларускую амбасаду ў Югаславіі, як і раней, узначальвае Валер Брылёў — зяць былога міністра замежных спраў Івана Антановіча. Падобна, што на яго лёс ад'езд Радзевіча не паўплывае.

**Уладзімір ГЛОД.**

Скандал

# Заметалинщина

**В одном из своих недавних интервью независимой прессе бывший заместитель главы Администрации президента, теперешний депутат Палаты представителей Иван ПАШКЕВИЧ сказал, что Владимир Заметалин "не просто работает на разрушение — своими действиями он способствует созданию провокаций". А Владимир Заметалин со страниц государственной прессы в свою очередь заявил: "Где "светится" фамилия И.Пашкевича, следует ставить табличку: "Осторожно. Желательно не трогать. Провокатор".**

**Сегодня Иван ПАШКЕВИЧ рассуждает о таком явлении в белорусской политике, как "заметалинщина".**

*Владимир Заметалин.* *Иван Пашкевич.*

**Марина КОКТЫШ**

— В Администрации президента мне приходилось наблюдать за работой Владимира Петровича, — говорит Иван Иванович. — У меня сложилось мнение, что этот человек не просто работает на разрушение — своими действиями он способствует созданию провокаций. Заметалин — это зло. И для белорусского народа. И для действующей власти. И для президента.

Сразу хочу заметить: я — не склочник, и это — не внутренние разборки. Это, если хотите, вопрос государственной безопасности. Тем более что, работая в Администрации президента, я ни разу не позволил себе сделать публичное заявление в отношении Владимира Заметалина. Чаще всего арбитром в наших стычках выступал президент.

## Знакомство

— Весьма любопытной была моя первая встреча с Владимиром Петровичем. Возглавляя представительство телерадиокомпании "Мир" в Беларуси, я столкнулся с большими организационными трудностями. Безусловно, поддержку искал в лице государственных служащих. Владимир Петрович в то время был заместителем главы Администрации президента и курировал вопросы, связанные со средствами массовой информации. Никогда не забуду, как по несколько раз приходилось писать одни и те же записки — некоторые из них просто терялись, а другие устаревали из-за длительного рассмотрения Владимиром Петровичем тех или иных вопросов. Я часами просиживал в его приемной и ждал, когда меня соблаговолят принять.

Именно тогда я познакомился с Константином Затулиным — известным борцом за славянское единство, лидером движения "Отечество". У меня создалось впечатление, что в те годы господин Затулин имел постоянную прописку в кабинете Владимира Петровича. Более того, мне как директору телерадиокомпании "Мир", штаб-квартира которой находится в Москве, приходилось довольно часто бывать в столице союзного государства. Там в VIP-зале я практически всегда видел и Заметалина, который встречал или провожал Костю Затулина...

Не разобравшись, не вникнув в белорусские проблемы, Владимир Петрович сразу замахнулся на славянское единство.

## "Мальчик на побегушках"

— Заметалин, следуя лучшим традициям партийной журналистики, обеспечивал "победу" на президентских выборах Вячеславу Кебичу. Когда появилась история с голландской "уткой" и стюардессой Жанной, мне все стало ясно и с судьбой Вячеслава Францевича, и с судьбой самого Владимира Петровича... Однако с судьбой последнего я сильно ошибся...

В довольно сложный период референдума (не скрываю, что принимал в его проведении активное участие) я был в числе тех, кто готовил различные обращения к общественности и лидерам политических партий. Работали в бывшем здании ЦК комсомола, в кабинете Владимира Петровича. Я был поражен неумением этого человека четко сформулировать мысль. Его предложения типа "мировой сионизм" и "гнилой капитализм" ни на йоту не вписывались в русло обсуждаемой темы. Поэтому Владимир Петрович по просьбе всех присутствующих, как правило, бегал в буфет Администрации президента за чаем и бутербродами...

## Трагедия чиновника

— Когда уже был решен вопрос о моем переходе на работу в Администрацию президента, состоялась еще одна наша встреча с Владимиром Петровичем. На четвертом этаже "Красного дома", в углу коридора, где собирается меньше всего народа. Владимир Петрович просил только об одном: "Иван Иванович, моя отставка в журналистской среде вызовет шквал вопросов. Я убедительно Вас прошу, давайте будем придерживаться версии, что якобы в Госкомитете по печати, куда я перехожу руководителем, полный развал. Поэтому президент именно меня направляет на этот сложный и ответственный участок работы. Чтобы навести порядок".

На первой же пресс-конференции по поводу своего вхождения в должность я так и объяснил общественности перемещение Заметалина на другую должность. Сказались где-то и моя собственная эйфория, и желание понять состояние Владимира Петровича.

Между прочим, переход в Госкомпечати для Заметалина был мощнейшим стрессом. Насколько я знаю, он не мог пережить отсутствие в новом кабинете даже правительственного телефона... И посему вместо созидательной работы в Комитете по печати занимался распространением слухов: якобы со дня на день он переходит на другую вышестоящую работу...

Многие связывают с именем Заметалина чуть ли не целую эпоху в белорусской политической жизни. Увы... Возвеличивающие персону Заметалина слухи и сплетни Владимир Петрович придумывает сам...

## Политинформатор

— О "летучках", или производственных совещаниях в правительстве, которые проводил Владимир Петрович, ходили легенды. Полтора-два часа он говорил только о политических проблемах, и минут пятнадцать-двадцать — о социальных вопросах, которые непосредственно курировал.

Владимир Петрович убежден, что он лучше всего и лучше всех разбирается в политике. Он вообще считает себя самым искусным политиком Беларуси.

## "Телохранитель"

— К отставке экс-министра культуры Александра Сосновского Владимир Петрович имеет самое непосредственное отношение. Спасая свою родственницу, директора Белгосцирка Татьяну Бондарчук, Владимир Заметалин "подставил" министра культуры. Не буду вдаваться в подробности этой отставки. Скажу только, что Александр Сосновский был оскорблен незаслуженно.

*(Окончание на 3-й стр.)*

Навіны

# Прад'яўлена абвінавачанне Аляксандру Чыгіру

**Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры МУС, следчым упраўлення Следчага камітэта пры МУС Рэспублікі Беларусь Аляксандру Чыгіру прад'яўлена абвінавачанне па артыкуле 205, частка 4 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь — тайны крадзеж маёмасці, учынены паўторна групай асоб у асабліва буйных памерах.**

Нагадаем, што Аляксандр Чыгір, Сяргей Каляда і Васіль Быкаў былі затрыманы 10 лютага на адным з аўтарынкаў сталіцы. Следства сцвярджае, што некаторыя выкрадзеныя запчасткі з аўтамабіляў менавіта датычаць крадзяжоў Аляксандра Чыгіра.

Юлія Чыгір мяркуе, што пакуль не пройдуць прэзідэнцкія выбары, сына будуць трымаць пад вартай і абвінавачваць па тэлебачанні. Разам з тым яна выказала сумненне, што справа трапіць у суд, паколькі яна таго ж бяздоказнага характару, як і крымінальная справа Міхаіла Чыгіра. "Я думаю, што наш сын не распешчаны і пройдзе, як і ягоны бацька, усе выпрабаванні з годнасцю", — сказала Юлія Чыгір.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

# Зянона Пазьняка просяць вылучыцца кандыдатам у прэзідэнты

**Соймавая канферэнцыя БНФ "Адраджэньне" (на чале з Зянонам Пазьняком) і Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ, што адбылася ў Мінску 18 лютага, звярнулася да свайго лідэра з заклікам узяць удзел у сёлетніх прэзідэнцкіх выбарах.**

Як паведаміў БелаПАН намеснік старшыні арганізацыі Сяргей Папкоў, актывісты партыі і руху будуць збіраць подпісы за вылучэнне Зянона Пазьняка, які зараз знаходзіцца ў эміграцыі, кандыдатам у прэзідэнты. На думку Папкова, рэгістрацыя дала б Пазьняку нейкія гарантыі бяспекі пры вяртанні на радзіму. "Калі яго зарэгіструюць, будзем сустракаць яго ў Брэсце", — сказаў Папкоў.

Прадстаўнікі Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ неаднаразова заяўлялі, што не падтрымаюць магчымага адзінага кандытата ў прэзідэнты, аб якім спрабуюць дамовіцца прадстаўнікі іншых апазіцыйных партый.

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ.**

# Судебный процесс по "Маршу Свободы"

**Судебный процесс в Минском городском суде по уголовному делу Николая Статкевича и Валерия Щукина близится к завершению. Этих белорусских политиков судят за участие в "Марше Свободы", прошедшем 17 октября 1999 года. Двоих из почти 20 тысяч участников того шествия.**

22 февраля, в 10 часов, на процессе ожидается выступление прокурора. Государственное обвинение поддерживает юрист 1-го класса Владислав Чирин.

Судебный процесс не обошелся без юридического казуса. Николай Статкевич, которого зарегистрировали кандидатом в депутаты лукашенковской Палаты №2, обратился с ходатайством о приостановке судебного следствия на период предвыборной агитации. Иначе, в нарушение статьи 73 Избирательного кодекса, он будет не в равных условиях с другими кандидатами. Ведь на время судебных заседаний он лишается возможности проводить встречи с избирателями.

Прокурор выступил резко против, и судья Тамара Высоцкая данное ходатайство отклонила.

**Никита ПИГУЛЬ.**

